Пятніца
24 лістапада 2006 г.
№ 14 (22)
наклад 299 ас.
Рэдактар: Ігар Шчэкарэвіч

МП свой горад сваімі рукамі

# ПРАЎДА мастоўская

Калі вы жадаеце атрымліваць у далейшым наша выданне, калі ласка, дашліце sms з паведамленнем адраса, на які павінна прыходзіць "Мастоўская праўда" на нумар: + 370 677 29 646

# Аляксандра Пудаўкіна выклікалі ў Мастоўскі РАУС

**А. Пудаўкін зьяўляецца дэпутатам раённага савету з вёскі Лунна. У канцы кастрычніка 2006 г. ён быў выкліканы на допыт ў Мастоўскі райаддзел міліцыі ў якасьці сьведкі. Па яго нечакана прыехаў участковы і адвёз у райцэнтар у пастарунак, нічога не патлумачыўшы.**



А. Пудаўкін зьяўляецца дэпутатам раённага савету з вёскі Лунна. 29 кастрычніка 2006 г. ён быў выкліканы на допыт ў Мастоўскі райаддзел міліцыі ў якасьці сьведкі. Па яго нечакана прыехаў участковы і адвёз у райцэнтар у пастарунак, нічога не патлумачыўшы.

Сьледчы патлумачыў спадару Пудаўкіну, што яго выклікалі ў зьвязку з ягонай паездкай у Малдову ў 2005 годзе. Паводле следчых органаў РАУС у гэтай краіне распачата расследаваньне дзеля высвятлення, зь якой мэтай група беларускіх актывістаў прыяжджала ў Кішынёў,

Паўтара года таму Аляксандар Пудаўкін быў сярод групы беларусаў, якія прыехалі на прэзыдэнцкія выбары ў Малдову, каб назіраць за ходам галасаваньня. Аднак іх ня выпусьцілі з вагону і, пратрымаўшы некалькі гадзінаў у цягніку, адправілі назад, набыўшы ім квіткі.

Паводле звестак МП следчыя органы МУС па ўсёй краіне выклікаюць сведкаў паездкі ў Малдову, мэтай якой было назіранне за празрыстацю і законнасцю выбараў.

*Падрыхтаваў Ігар Шчэкарэвіч*

## В Беларуси сформированы избирательные участки для голосования на местных выборах

В Беларуси сформировано 6 тыс. 526 избирательных участков для голосования на выборах депутатов в местные Советы. Как сообщил корреспонденту БЕЛТА секретарь Центризбиркома Беларуси Николай Лозовик, в Брестской области образовано 992 участка, Витебской - 967, Гомельской - 1125, Гродненской - 794, Минской - 1128, Могилевской - 843 и городе Минске - 677 участков для голосования. При этом он отметил, что по сравнению с предыдущими местными выборами количество участков сократилось на 155, что объясняется изменениями в административно-территориальном делении, объединением городов и районов. Большинство избирательных участков образовано в традиционных границах, сказал секретарь.

Николай Лозовик также сообщил, что 9 ноября истек срок подачи документов на регистрацию инициативных групп по выдвижению кандидатов в депутаты. Количество зарегистрированных групп станет известно в ближайшее время. Напомним, что до 29 ноября в Беларуси должно завершиться образование участковых комиссий. На предстоящих 14 января 2007 года выборах в местные Советы предстоит избрать 22619 депутатов разных уровней.

БелТА

# Не верым у выбары

**Такую фразу вельмі часта можна пачуць, калі падчас збору подпісаў ходзіш ад дзвярэй да дзвярэй.**




Людзі не адчуваюць ніякага даверу да мясцовай улады. 99% з іх не можа назваць свайго дэпутата, якога яны ніколі не бачылі і не чулі акрамя перадвыбарчай агітацыі чатырохгадовай даўніны. Большасць дэпутатаў пасьля выбараў забываецца на сваіх выбарнікаў. Яны ім не патрэбныя, як і само дэпутацтва. Сённяшніх дэпутатаў "просяць" выставіць сваю кандыдатуру мясцовыя функцыянеры-вертыкальшчыкі з райвыканкаму. Некаторыя з "кандыдатаў" даведваюцца аб сваім кандыдацтве ў апошні момант і вымушаны ісць на выбары, каб не ўзнікла праблемаў з працай і г.д. Сярод іх ёсць прыстойныя і добразычлівыя людзі, аднак беларуская сістэма ня грэбуе нічым. Галоўная мэта захаванне стабільнасці. Стабільнасці, якая азначае ўтрыманне пасадаў, добрых заробкаў і г.д. для пэўнай купкі людзей. А тыя, хто працуюць на "Мастоўдрэве" нават і ня чулі пра прэзідэнскія 250 даляраў, 250 тыс. Вось што мае большасць. Некаторыя нават і пра гэта мараць.

Так і атрымліваецца, што нікому - ні самым "вылучэнцам", ні іх выбарнікам - не патрэбныя ні кандыдаты, ні выбары, ні дэпутаты, ні Саветы. Толькі вертыкаль адчувае патрэбу ў "прыручаных" Саветах, таму што захоўвае свой татальны кантроль над усім і ўсімі. Вертыкальшчыкі могуць бязмежна ўладарыць і рабіць, што ім захочацца, нягледзячы на патрэбы і інтарэсы грамадзян, нягледзячы на вялізарныя праблемы г. Масты, адкуль бяжыць уся моладзь, як з гінучага караблю. Ды і дарослыя тут не застаюцца, асабліва мужчыны, якія ў масавым парадку з'язджаюць з гораду, часьцей за ўсё за мяжу, каб зарабіць грошай на прыстойнае жыццё сваіх сем'яў.

Аднак існуе пэўная надзея на станоўчыя зрухі ў Мастоўскім Савеце. На гэтыя мясцовыя выбары ідзе даволі вялікая колькасць незалежных кандыдатаў, якія самі вырашылі балатавацца без падказкі "зверху", якім ужо абрыдла маўчанне і беззубасць Мастоўскага Савету, што ператварыўся ў фармальны орган. У асноўным гэта маладыя людзі, якія хочуць бачыць Мастоўшчыну прыгожым і перспектыўным краем, дзе можна знайсці прыстойную працу і добрыя ўмовы жыцця.

Спадзяемся, што энергія і дынамізм незалежных прадстаўнікоў мастоўскай моладзі здольны прынесці пазітыўныя перамены ў Мастоўскі Савет і агульнае жыццё Мастоў.

Сябра ініцыятыўнай групы

**Калі вы хочаце атрымліваць штодзённую рассылку навінаў "Свабоды" на ваш мабільны тэлефон, дашліце нам свой нумар тэлефона. Дасылайце смс на нумар 391-22-24.**

Беларусь заняла 13 место среди стран мира по количеству пользователей Интернета. Такие данные приведены в распространенном в пятницу «Докладе об информационной экономике», составленном Конференцией ООН по торговле и развитию. В частности, согласно докладу, в Беларуси насчитывается порядка 3,39 млн. пользователей.

## МЯСЦОВЫЯ ВЫБАРЫ. Пункт гледжання

**Дэмакрытчныя сілы:**

**Дэмакратычныя партыі вылучылі агулам 120 кандыдатаў у тэрытарыяльныя камісіі, аднак ніводзін з іх не патрапіў у камісіі.**

*Радыё "Свабода"*

**Центризбирком:**

**Секретарь ЦИК Николай Лозовик об отсутствии представительства демократических партий в избиркомах : "заявок от них как таковых практически не поступало".**

## ПРЭЗІДЭНСКІЯ ВЫБАРЫ. Пункт гледжання

**Александр Лукашенко, президент Беларуси: "Последние выборы мы фальсифицировали. На этих выборах за меня проголосовало 93.5%. Но мы сделали 83%. Нам сказали, это не европейский процент... Европа сказала нам, что это не европейский процент".**

**"Интерфакс"**

**Николай Лозовик, секретарь ЦИК: "Центризбирком не располагает фактами фальсификации президентских выборов. Все результаты были подведены на основании протоколов голосования и выражают реальное волеизъявление избирателей"**

**TELEGRAF.BY**

## Еўрасаюз прапануе беларускаму народу сваю падтрымку



**Еўракамісія распрацавала новую стратэгію ўзаемадачыненняў паміж Беларуссю і Еўрасаюзам, якая была прэзэнтавана 21 лістапада кіраўніком прадстаўніцтва Еўракамісіі па Беларусі і Украіне Іенам Боўгам. На ўзамен за дэмакратызацыю, спыненне рэпрэсіяў і нармалізацыю адносінаў Еўропа прапануе адкрыць свае рынкі для беларускіх тавараў, забяспечыць фінансавую падтрымку беларускаму бізнэсу, стварыць спрыяльныя ўмовы атрымання візаў, павялічыць колькасць стыпендыяў для беларускіх студэнтаў.**

**12 пунктаў, якія мусяць выканаць беларускія ўлады, каб атрымаць дапамогу Еўрасаюзу:**

1. Паважаць права народу Беларусі выбіраць сваіх лідэраў дэмакратычным шляхам — іх права чуць усе меркаванні і бачыць усіх кандыдатаў на выбары; права апазыцыйных кандыдатаў і груп падтрымкі праводзіць кампаніі без прыгнёту, судовага пераследу або турэмнага зьняволення; незалежнае назіранне за выбарамі, беларускімі няўрадавымі арганізацыямі ўключна; права волевыяўлення і права на справядлівы падлік галасоў;
2. Паважаць права народу Беларусі на незалежную інфармацыю і свабоду слова, напрыклад, свабода журналістам працаваць без прыгнёту або судовага пераследу, каб не зачыняліся газеты і не было перашкодаў іх распаўсюду;
3. Паважаць правы недзяржаўных арганізацый як жыццёва важнай часткі здаровай дэмакратыі – больш не ўскладняць іх легальнае існаванне, не прыгнятаць і не пераследаваць сябраў грамадзкіх аб'яднанняў, дазваляць ім атрымліваць міжнародную дапамогу;
4. Вызваліць усіх палітычных зняволеных — сябраў палітычных апазыцыйных партый, сябраў НДА і простых грамадзян, арыштаваных падчас мірных дэманстрацый і мітынгаў;
5. Належным чынам і незалежна расследаваць або пераглядзець выпадкі са зьнікненьнем людзей;
6. Забяспечыць права беларусаў на незалежную і неперадузятую судовую сыстэму — з суддзямі, незалежнымі ад палітычнага ціску, без самавольства і галаслоўнага крымінальнага судовага пераследу або палітычна матываванага судовага прысуду, як зняволенне ў турму грамадзян, якія мірна выказваюць свой пункт погляду;
7. Спыніць адвольныя арышты і затрыманні, дрэннае абыходжанне з людзьмі;
8. Паважаць правы і свабоды тых беларускіх грамадзянаў, якія адносяцца да нацыянальных меншасцяў;
9. Паважаць правы беларусаў як працаўнікоў – іх права ўступаць у прафсаюзы і права прафсаюзаў працаваць на абарону правоў людзей;
10. Паважаць правы беларусаў як прадпрымальнікаў ажыццяўляць дзейнасць без празмернага ўмяшання ўладаў;
11. Далучыцца да адмены смяротнай кары следам за іншымі народамі Эўропы;
12. Выкарыстаць падтрымку, якую АБСЭ, ЭЗ і іншыя арганізацыі прапаноўваюць Беларусі для дапамогі ў выкананні правоў сваіх грамадзянаў.
12. Выкарыстаць падтрымку, якую АБСЭ, ЭЗ і іншыя арганізацыі прапаноўваюць Беларусі для дапамогі ў выкананні правоў сваіх грамадзянаў.

**падрыхтаваў Ігар Шчэкарэвіч паводле "Нашай Нівы"**

### М.Пастухоў: у краіне засталося 16 незалежных грамадзка-палітычных выданьняў

Міжнародная арганізацыя абароны журналістаў "Рэпартэры бязь межаў" распаўсюдзіла штогадовую справаздачу пра стан свабоды прэсы ў сьвеце. Сярод 168 краінаў Беларусь заняла 151-е месца й стала поруч з такімі дзяржавамі, як Емэн, Лібія, Сырыя, Ірак, Віетнам, Ляос, Пакістан і Узбэкістан.

**Радыё "Свабода"**

### Аляксандр Мілінкевіч сустрэўся з галадаючымі пратэстантамі

**Удзельнікаў галадоўцы ў падтрымку пратэстанскай царквы "Новае жыццё" наведаў лідэр дэмакратычных сіл Аляксандр Мілінкевіч.**



*А. Мілінкевіч падчас сустрэчы з прыхільнікамі*

Мілікевіч цікавіўся самаадчуваннем галадаючых і выказаў ім словы падтрымкі:

*Я бачу тут вельмі сільных і мужных людзей, у каго ёсць глыбокая вера ў Бога, вера ў справядлівасць. Гэтыя людзі непераможныя, а змагаюцца яны за самае простае права права свабоды сумлення. Гэта адно з самых галоўных правоў чалавека. Я вельмі паважаю гэтых людзей, жадаю ім мужнасці, жадаю, каб яны не страцілі здароўе ў гэтай барацьбе. Я ведаю, што Бог з тымі, хто тут і Бог не пакіне іх.*

**Падрыхтаваў А. Копаць паводле радыё "Свабода"**

### Карл Маркс "Разоблачения дипломатической истории XVIII века":

«Московия была воспитана и выросла в ужасной и гнусной школе монгольского рабства. Она усилилась только благодаря тому, что стала virtuoso в искусстве рабства. Даже после своего освобождения Московия продолжала играть свою традиционную роль раба, ставшего господином. Впоследствии Петр Великий сочетал политическое искусство монгольского раба с гордыми стремлениями монгольского властелина, которому Чингисхан завещал осуществить свой план завоевания мира»

**МАСТОЎСКАЯ ПРАЎДА**
грамадзка-інфармацыйнае выданне Мастоўшчыны
№ 14 (22) 24 лістапада 2006 г.
**Заснавальнік: Аляксандр Зарэмбюк.**
дэпутат 24 склік. Мастоўскага райсавета.
**Галоўны рэдактар: Ігар Шчэкарэвіч.**
**Верстальшчык: Сяргей Губарэвіч.**
Наклад: 299 асобнікаў.
Адрас рэдакцыі: г. Масты вул. Я.Купалы 1 . Беларусь.
e-mail: **masty.prawda@hotmail.com**
Надрукавана на фінасавыя ахвяраванні жыхароў г. Масты ў друкарні ААТ Бліц-Прынт, г. Кіеў вул. Даўжэнка, 9.
Выходзіць 1 раз на 2 тыдні.
Распаўсюджваецца бясплатна.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць інфармацыі.